# Маю права

*Бюлетэнь абласнога аддзялення БХК, абласнога аддзялення праваабарончага цэнтра «Вясна», рэгіянальнага праваабарончага цэнтра грамадскага аб'яднання «Ратуша», аб'яднання таварыства абароны правоў спажыўцоў г. Гродна*

● № 3 (16), жнівень 2000 г.

**Чытайце ў нумары:**



Падтрымка гэтага праекта была ажыццёўлена фондам «Еўразія» за кошт сродкаў, якія прадастаўлены Агенцтвам Злучаных Штатаў Амерыкі па Міжнароднаму развіццю (AID). Пункт гледжання аўтараў бюлетэня можа не супадаць з пунктам гледжання Агенцтва па Міжнароднаму развіццю ці фонда «Еўразія»

**Рэдакцыйны каментарый**

# 25 гадоў назад у Хельсінкі...

Гэты юбілей для грамадзян прайшоў незаўважна. Між тым, менавіта 1 жніўня 1975 года – знамянальная дата для ўсіх еўрапейцаў. Тады быў прыняты Заключны Акт Нарады па Бяспецы і Супрацоўніцтву ў Еўропе.

Шлях да гэтага дакумента, падпісанага 35 кіраўнікамі краін Старога Свету, а таксама ЗША і Канады, меў некалькі этапаў. Упершыню прадстаўнікі дзяржаў сабраліся ў Хельсінкі з 3 па 7 ліпеня 1973 года. Затым перамовы вяліся з 18 верасня 1973 па 21 ліпеня 1975 года ў Жэневе. 1-га жніўня 1975 года ў Хельсінкі ўдзельнікі Агульнаеўрапейскай нарады паставілі свае подпісы пад Заключным Актам.



Будынак Парламента Фінляндыі. Пабудаваны ў сакавіку 1931 г.

Дакумент запачаткаваў супрацоўніцтва еўрапейскіх краін у пытаннях агульнай абароны. Правы чалавека былі прызнаны важным элементам міра, стабільнасці, справядлівасці і бяспекі. Былі ўсталяваны прынцыпы, якія еўрапейскія краіны ўзялі на сябе, каб кіравацца ва ўзаемадачыненнях:

—сувярэнная роўнасць, павага правоў, якія надаюцца суверэнітэтам

— неўжыванне сілы і пагрозы ёю

— непарушнасць межаў

— тэрытарыяльная цэласнасць дзяржаваў

— мірнае вырашэнне канфліктаў

— неўмашальніцтва ва ўнутраныя справы

— павага правоў чалавека і асноўных свабодаў, уключаючы свабоду думкі, сумлення, рэлігіі і перакананняў

— роўнасць і правы народаў распараджацца сваім лёсам

— супрацоўніцтва між краінамі.

Дзяржавы-удзельніцы АБСЕ тады ўпершыню заявілі, што міжнародная салідарнасць важнейшая, чым ідэалагічныя разыходжанні; супрацьстаянне, якое ўзнікла ў мінулым, павінна быць вырашана сёння: чалавецтва мае агульную гісторыю і агульны лёс; кожны народ робіць свой унёсак у бяспеку і мір.

За мінулы час карта Еўропы змянілася. І несумненна, што гэтаму спрыялі дакументы, прынятыя ў час Хельсінскай нарады па супрацоўніцтву і бяспецы.

**Усе на выбары?**

# Усё тыя ж, тыя ж, тыя ж ...

У вобласці створаны 13 акруговых выбарчых камісій, у складзе якіх восем прадстаўнікоў КПБ, трое – іх калегі з ПКБ. Практычна ў кожнай камісіі прадстаўлены маладыя функцыянеры з БПСМ, а таксама ўсюдыісныя пенсіянеры. Усяго на выбарчыя ўчасткі павінна прыйсці 865.900 выбаршчыкаў.

У Гродне створаны Гродзенская-Занёманская № 51, Гродзенская-Цэнтральная № 52, Гродзенская-Паўночная № 53 і Гродзенская сельская № 54 выбарчыя акругі.

14 жніўня завершана рэгістрацыя 55 ініцыятыўных груп па зборы подпісаў грамадзян па вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты. Усяго дакументы на рэгістрацыю прадставілі 64 групы. Дзевяці было адмоўлена найперш з-за няправільнага афармлення папер. Найбольш "адмоўнікаў", пяць, прыпала на Гродзенска-Занеманскую выбарчую акругу № 51.

Каб быць зарэгістраваным кандыдатам у дэпутаты трэба сабраць не менш тысячы подпісаў грамадзян. Іншыя будуць вылучацца сходам працоўных калектываў.

**Сцяпан Ярашчук**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І БЕЛАРУСЬ

*Палітыка*

## Майкл Козак выказаўся ...

Як вядома, у Беларусі з`явіўся новы пасол ЗША. Гэта Майкл Козак. Яго кандыдатура была ўхвалена Сенатам Злучаных Штатаў. Прэзідэнт Клінтан таксама не выказаўся супраць. А вось Міністэрства замежных спраў Беларусі адрэагавала на прызначэнне вельмі стрымана.

Прычынаю сталіся выказванні пана Козака, зробленыя ў Сенаце. Дыпламат ахарактарызаваў беларускі рэжым, як вельмі блізкі да ўсталяванага кубінскім дыктатарам Кастра. Магчыма, меў на ўвазе прахалоднае стаўленне да абароны правоў і асноўных свабод чалавека.

Майкл Козак ведае, што гаворыць, бо працаваў паслом на так званай выспе Свабоды. Прэс-сакратар МЗС Беларусі спадар Мікалай Барысевіч ацаніў заяву амерыканскага дыпламата як "некарэктную".

*Моўнае пытанне*

## Алег Трусаў не маўчыць

Актыўная пазіцыя старшыні грамадскага аб`яднання "Таварыства Беларускай мовы імя Ф.Скарыны" Алега Трусава заслугоўвае шчырай падзякі і падтрымкі. Ён не стамляецца нагадваць высокаму беларускаму чынавенству выконваць Законы краіны.

Такое пісьмо атрымала і міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Вольга Даргель. Ёй прапанавана перавесці справаводства на беларускую мову, зрабіць захады, каб роднай мовай авалодалі ўсе службоўцы міністэрства, прымаць дакументы з іншых установаў, напісаныя толькі па-беларуску.

Заканадаўства патрабуе, нагадвае спадар Трусаў, ведання абедзвюх дзяржаўных моваў. Тым больш, што 38 адсоткаў жыхарства Беларусі карыстаецца ў побыце матчынай мовай. Карэннае насельніцтва краіны складае 8 мільёнаў чалавек з дзесяці.

Заява Алега Трусава выклікана тым фактам, што многія чыноўнікі адмаўляюцца прымаць ад наведвальнікаў сацыяльных установаў беларускамоўныя паперы. Гэта ёсць парушэнне арт. 122/2 Кодэксу Беларусі "Аб адміністрацыйных правапарушэннях".

Спадарыня Вольга Даргель у роздуме.

*Норавы*

## Калі нельга з`есці, то можна пакусаць

Менавіта такімі думкамі, відаць, кіраваліся чыноўнікі выканкама горада Бяроза Брэсцкай вобласці, адмаўляючы арганізатарам у памяшканні для сустрэчы грамадскасці з намеснікам старшыні грамадскага аб`яднання БНФ "Адраджэньне" Юрыем Хадыкам.

Ні замоўленыя Дом культуры, ні стадыён ініцыятары не атрымалі. Затое мелі з выканкама адпіску, што "няма неабходнасці ў такой сустрэчы". І хто даў права "вертыкальшчыкам" вырашаць за людзей, што грамадзянам трэба, а чаго не трэба?

Сустрэча адбылася на кватэры ў аднаго з актывістаў дэмакратычнага руху. Праўда, пільныя пенсіянеры адразу спавясцілі аб гэтым міліцыю. Аднак апошнія не ўгледзелі парушэння заканадаўства. Зразумела, што 60 прысутных на сустрэчы не 600 ці 1,5 тысячы.

Выканкам дзейнічаў як у тым анекдоце: калі не з`ем яблык, то хацяб пакусаю. Аб чым з радасцю было паведамлена "наверх".

*Амністыя*

## Халоднае лета 53-га?



У Беларусі працягваецца амністыя асуджаных. У агульнай колькасці волю атрымаюць 10.700 "зэкаў" і 2.400 асуджаных умоўна. Яшчэ 25.000 грамадзянам тэрмін будзе скасаваны на год.

Амністыя-2000 выклікана і тым, што сёння ў месцах не вельмі аддаленых "сядзіць" 61.000 чалавек пры наяўнасці 42,7 тысячы месцаў. Утрыманне аднаго асуджанага ў месяц складае 17,8 тысячы рублёў. З грашыма ў рэспубліцы праблема. Усяго ў нашай краіне на 100.000 чалавек прыпадае 600 зняволеных. У той жа Бельгіі, напрыклад, гэтая лічба складае 65 чалавек. Правапарушэнняў менш там, дзе моцная эканоміка.

Хочаш не хочаш, а нешта рабіць трэба. Прыдумалі амністыю, ведаючы, што вялікая частка былых "зэкаў" абавязкова неўзабаве вернецца ў турмы за новыя злачынствы.

*СНІД*

## Цешыліся і дацешыліся ...

Колькасць хворых на СНІД на Гродзеншчыне пагражальна павялічваецца. Вобласць трымае па гэтым паказчыку першынство ў Беларусі. 69 працэнтаў хворых – гэта мужчыны, з якіх ва ўзросце 20-29 гадоў – 67,5 працэнта. 85 працэнтаў – наркаманы.

Яшчэ ў лютым бягучага года рэзкі скачок ВІЧ-інфікаваных быў адзначаны ў Лідзе. Іх колькасць там дасягнула 19 чалавек. Аднак вобласць цешылася найменшым у краіне паказчыкам хворых – 36 носьбітаў. Але медыкі былі ўстрывожаны, што небяспека набліжаецца да Гродна і Ваўкавыска.

Хворым застаецца толькі спадзявацца на арт. 45 Канстытуцыі Беларусі, дзе гарантуецца права на ахову здароўя, уключаючы бясплатнае лячэнне ў спецыялізаваных дзяржустановах.

**Ул. Інф.**

*Галадоўка*

## Адбывае тэрмін у турме

Працягвае галадоўку Дзмітрый Абадоўскі, абвешчаную 30 чэрвеня. Гэты хлопец асуджаны на 5 гадоў і тры месяцы і зараз знаходзіцца ў Магілёўскай турме. Нядаўна Дзмітрый разаслаў заявы ў пракуратуру, сродкі масавай інфармацыі і праваабарончыя арганізацыі. У прыватнасці, вязень піша, што справа была сфальсіфікавана, з`яўляецца вынікам пераследу яго і яго сям`і, мае палітычную матывацыю. У час следства дапускаліся шматлікія парушэнні.

**(Паводле газет "Ніва", "Наша слова", "Новая газета Сморгони", "Народная Воля")**

Беларускі Хельсінскі Камітэт



Інфармацыйна-прававая старонка абласнога аддзялення БХК

# Задачы праваабарончага руху

Пачаткам праваабарончага руху трэба лічыць 10 снежня 1948 года, калі Генеральная Асамблея ААН прыняла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека. З таго часу Дэкларацыя была дапоўнена дзесяткамі іншых міжнародных дакументаў і пактаў.

Важным этапам станаўлення праваабарончага руху была і Агульнаеўрапейская нарада па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (СБСЕ). Быў прыняты Заключны акт. Краіны Захаду дамагліся, каб у цэнтры ўвагі былі не толькі пытанні ўмацавання міру, але і правы чалавека. Уся гэтая гіганцкая дыпламатычная работа вядома як Хельсінскі працэс.

Кіраўнік Савецкага Саюза Леанід Брэжнеў таксама падпісаў дакумент. Аднак гэта зусім не азначала, што абароне правоў чалавека ў краіне будзе нададзена першачарговая ўвага. Патрабаваць свабоду Анджэле Дэвіс, Нэльсану Мандэлу ці Луісу Карвалану адно, а вось рабіць канкрэтныя крокі для забеспячэння правоў і асноўных свабод чалавека ў СССР – зусім іншае. У савецкім друку выслоўе "так званыя правы чалавека" пісалася выключна ў двукоссі.

Кіраўніцтва тагачаснай савецкай краіны папросту ігнаравала права на жыццё, свабоду і асабістую недатыкальнасць (арт. 3 Усеагульнай дэкларацыі), прызнанне правасуб`ектнасці грамадзяніна (арт.6), роўнасці перад Законам (арт.7), свабоднае перамяшчэнне і выбар месца жыхарства (арт.13), валоданне маёмасцю (арт.17), свабода думкі, сумлення і рэлігіі (арт.18),



свабода перакананняў і іх свабоднае выказванне (арт. 19), удзел у кіраванні дзяржавай (арт.21), права на працу і свабодны выбар работы (арт. 23) і інш.

Сітуацыя змянілася 5 верасня 1991 года, калі 3`езд народных дэпутатаў СССР прыняў "Дэкларацыю правоў і свабод грамадзяніна".

Міжнародная Хельсінская федэрацыя, сябрам якой з`яўляецца БХК, ставіць за мэту наладзіць кантроль над дзейнасцю дзяржаўных структур у галіне правоў чалавека. Адсюль і актыўны ўдзел прадстаўнікоў БХК у судовых працэсах, шматлікіх зваротах на адрас дзяржаўных структур, шырокая кансультацыйная і асветная дзейнасць. Прэзідэнцкая "вертыкаль" вымушана прыслухоўвацца да яго пункту гледжання.

**Аляксандр Антанюк**

# Справа, якой не бачна канца

## Пачатак гісторыі

У лютым гэтага года супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС г. Гродна нібыта за "распаўсюджванне лістовак" затрымалі грамадзяніна С. Ён быў пакараны штрафам. Грамадзянін звярнуўся да юрыстаў Гродзенскага абласнога аддзялення БХК. Пастановай старшыні абласнога суда рашэнне суддзі Н. Рачынскага было адменена.

Грамадзянін патрабаваў ад Кастрычніцкага РАУС публічнага прабачэння за незаконнае затрыманне і невялікую грашовую кампенсацыю за праезд на аўтобусе ад цэнтра Гродна да рэчавага рынку "Паўднёвы". З міліцыі прыйшоў адказ: "Дзеянні супрацоўнікаў міліцыі прызнаны правамоцнымі". І гэта ўжо пасля апраўдання гр. С. абласным судом! Пацярпеўшы зноў звяртаецца да кіраўніцтва райаддзела міліцыі.

## Палкоўнік міліцыі просіць прабачэння

Начальнік упраўлення ОПП УУС, палкоўнік С.Конкін нарэшце прызнаў, што "не ў поўным аб`ёме дадзена аб`ектыўная ацэнка Вашых (гр. С. – **А.С.**) канкрэтных дзеянняў, ва ўстаноўленым парадку не праведзена экспертыза канфіскаванай друкаванай прадукцыі, што і стала прычынай для адмены рашэння суда першай інстанцыі абласным судом.

Загадам начальніка Кастрычніцкага РАУС Хацько Г.Е. начальнік крымінальнай міліцыі Апонік І.Г. пазбаўлены прэміяльных даплат на сто працэнтаў. Намесніку начальніка ООПП Бортніку Ю.П. указана на адсутнасць пэўнага кантролю за вядзеннем адміністрацыйнай вытворчасці падначаленымі супрацоўнікамі. Матэрыял службовай праверкі разгледжаны на Камісіі па законнасці Кастрычніцкага РАУС для недапушчэння падобнага ў далейшай дзейнасці. Са свайго боку таксама прашу ў Вас прабачэння за непрафесійныя дзеянні супрацоўнікаў Кастрычніцкага РАУС".

## Каментар юрыста БХК

У дадзеным выпадку не выконваецца палажэнне арт. 42 Закона Беларусі "Аб міліцыі", у якім, у прыватнасці, гаворыцца: "Пры парушэнні работнікам міліцыі правоў і законных інтарэсаў грамадзян... орган міліцыі (унутраных спраў) абавязаны прыняць меры да аднаўлення гэтых правоў, кампенсаваць прычынены ўрон і па патрабаванню грамадзяніна публічна прынесці прабачэнне".

У гэтай справе грошы не вернуты, асабістыя прабачэнні ніяк не могуць быць "публічнымі".

Разумення "друкаваная прадукцыя", на якую спасылаецца высокі міліцэйскі чын, не ўтрымлівае Закон РБ "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Пра гэта засведчыў эксперт і на падставе чаго было адменена рашэнне суда першай інстанцыі. Здзіўляе, чаму з рашэннем экспертызы не азнаёмлены палкоўнік міліцыі С.Конкін.

Гр. С. па-ранейшаму чакае грашовай кампенсацыі і публічнага прабачэння з боку кіраўніцтва Кастрычніцкага РАУС.

**Алег Сідзігаеў**

Общественная приемная Гродненского отделения БХК работает с 11.00 до 17.00, кроме субботы и воскресенья. Граждане могут обращаться со своими проблемами к нашим юристам по адресу: г. Гродно, ул. С.Батория, д. 8, ком. 201 /гостиница "Неман"/. Телефон 44-61-43

Вясна
Абласное аддзяленьне праваабарончага цэнтра

Прыём грамадзян праводзіцца
Аўторак з 16.00 да 18.00
Чацвер з 16.00 да 18.00
Горадня, вул. К. Маркса, 11.
тел. 72-11-83

# Спыніць абмежаванне выбарчых правоў чалавека

Права чалавека выбіраць і быць абраным належыць да самых істотных правоў чалавека. Праз выбарчае права чалавек уплывае на свой лёс, стварае прымальныя для сябе ўмовы існавання, будучы свет для сваіх дзяцей. Тыя, хто абмяжоўвае выбарчае права грамадзян, імкнуццаператварыць людзей у паслухмяны статак, які не разумее ўласных інтарэсаў, а робіць тое, што загадае пастух (правадыр, "бацька", фюрэр).

Выбарчыя правы грамадзян, замацаваныя ў міжнародных прававых нормах, прызнала Рэспубліка Беларусь. Канстытуцыя нашай краіны ва ўсіх сваіх рэдакцыях дэкларуе роўнае права выбіраць і быць абраным кожнаму грамадзяніну Беларусі.

Але сёння дзяржаўная ўлада не забяспечвае выкананне выбарчых правоў чалавека. Мінімальныя ўмовы, якія могуць забяспечыць справядлівасць парламенцкіх выбараў, маючых адбыцца увосень, вылучаны беларускай апазіцыяй і еўрапейскай місіяй АБСЕ. Яны вельмі простыя: дзяржаўныя СМІ павінны даць слова ўсім палітыкам, а не толькі прыхільнікам "вертыкалі"; ва ўсіх выбарчых камісіях павінны быць прадстаўнікі ўсіх партыяў, а не толькі лаяльныя да "вертыкалі" асобы; улада павінна спыніць масавыя рэпрэсіі адносна апазіцыйных палітыкаў і рухаў. І, нарэшце, сам парламент павінен быць заканадаўчым органам, а не бяспраўнай установай, якая маскіруе неабмежаваныя законам і нормамі маралі паўнамоцтвы прэзідэнцкай "вертыкалі".

На Гарадзеншчыне ні адна з гэтых умоваў не выканана.

"Гродзенская праўда", абласное радыё і тэлебачанне, раённыя СМІ зачыненыя перад прадстаўнікамі грамадскасці, не падкантрольных структурам выканаўчай улады. Прадстаўнікі яе не ўвайшлі ні ў адну выбарчую камісію. Працягваецца ціск на апазіцыйныя партыі і рухі, няўрадавую прэсу, прафсаюзы. Не спыняюцца хлуслівыя абразы апазіцыі ў дзяржаўных СМІ. Датэрміновае галасаванне, праведзенае ва ўмовах бескантрольнасці, будзе абавязкова сфальсіфікавана.

У гэтых умовах апазіцыя не можа ўдзельнічаць у выбарчым фарсе. Любы чалавек разумее, што выбарчае права грамадзяніна Беларусі груба парушаецца на карысць праячага рэжыму. Як пераламіць сітуацыю і дамагчыся выканання канстытуцыйнага, законнага права на выбар? Пра гэта ў наступных нумарах.

**С.Сноп**

# Калі галадаць, дык з карысцю

**Паўгода працягваецца спроба калектыву рэдакцыі незалежнай гарадской газеты «Репортер» атрымаць ад кіраўнікоў Гродзенскага гарвыканкама дакумент аб узгодненасці адрасу размяшчэння выдання. Без гэтай паперы газету не рэгіструюць у Дзяржкамітэце па друку.**

Як сведчыць рэдактар штотыднёвіка Анджэй Пісальнік, выканаўчая ўлада ніяк не тлумачыць сваю адмову. У неафіцыйных размовах клеркі шчыра прызнаюцца: "начальства лічыць", што ў горадзе зусім не патрэбна новая незалежная газета. Інакш як самаўпраўствам і самавольствам такую пазіцыю не назавеш.

Журналісты газеты спрабавалі абараняць свае законныя правы несанкцыянаванымі акцыямі пратэсту каля будынка гарвыканкама. 2-га мая пяць асобаў, знітаваныя вяроўкай і заклееным ротам, сорак мінут з'вяртала ўвагу чынавенства і прахожых на свае праблемы. На майках былі зроблены надпісы "Кто ещё не душил журналистов", "Горисполком боится правды о своих темных делах". Міліцыя пратрымала ўдзельнікаў пікета ў РАУС Ленінскага раёна горада Гродна тры гадзіны. Была праведзена папераджальная гутарка, але пратаколы не складаліся. У справу ўмяшаўся віцэ-прэзідэнт Беларускай Асацыяцыі журналістаў Анатоль Гуляеў. Свае абяцанні намеснік старшыні гарвыканкама Сяргей Анішчык не выканаў.

Канфлікт працягваўся. Да будынка гарадскога выканаўчага камітэта з плакатам на грудзях выходзіў разам з малым сынам сам рэдактар Анджэй Пісальнік. Журналісты "Репортера" маюць намер аб`явіць галадоўку, калі і ў чарговы раз гарвыканкам адмовіць выдаць патрэбны дакумент на права рэгістрацыі газеты. Аб гэтым "вертыкаль" ужо спавешчана.

# Каментар кіраўніка абласнога аддзялення праваабарончага цэнтра "Вясна" Сяргея МАЛЬЧЫКА:

**– 16 гадоў я выкладаў у медыцынскім інстытуце патафізіялогію. Ёсць уласны вопыт галадоўкі на працягу дзесяці дзён у турме, куды трапіў пасля правядзення акцыі пратэсту Дзень Волі-2000. Пагэтаму маю права гаварыць пра фізіялогію, псіхалогію, калі хочаце, палітыку і рэакцыю голаду. У дадзеным выпадку бачу бессэнсоўнасць галадоўкі журналістаў. Навошта самаспальваць уласнае здароўе, калі эфектыўных вынікаў не будзе? Трэба дамагацца свайго іншымі сродкамі...**

**Ад рэдакцыі "МП".** А пакуль што рэдакцыя надрукавала бюлетэнь "Репортер" накладам 299 асобнікаў, што не забаронена законам. Чытачы, у прыватнасці, даведаліся, што на абарону гродзенскіх журналістаў сталі акрамя БАЖу Беларускі ПЭН-Цэнтр, Фонд абароны галоснасці (Масква), газета "Свободные новости", калегі з польскай "Газеты Выборчай" (Варшава).

Малафарматнае выданне пачало змяшчаць серыю матэрыялаў пра чыноўнікаў гарвыканкама, якія сваімі незаконнымі дзеяннямі перашкаджаюць рэгістрацыі газеты. Героямі рубрыкі "Слугі народа" сталі адказны службовец за сувязь з грамадскасцю Віктар Жалезняковіч і кіраўнік юрыдычнага аддзела Валерый Шанціла. Чакаюць сваёй чаргі намеснік старшыні Сяргей Анішчык, старшыня выканкама Анатоль Пашкевіч.

# Заканадаўства трэба ведаць усім

Нарматыўная база, якая рэгламентуе дзейнасць прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, не выклікае асаблівых пярэчанняў. Хаця да гэтага часу не прыведзены да адзінага знамянальніка Правілы бытавога абслугоўвання і Правілы надання грамадзянам у часовае карыстанне (пракат) прадметаў культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння, і адпаведныя артыкулы Грамадзянскага кодэксу.

Аднак кантроль за дзейнасцю "бытавікаў" не на вышыні. Напрыклад, гандлёва-рознічнай сеткай Гродна займаецца ўпраўленне гандлю гарвыканкама са штатам больш як 30 чалавек. Амаль такую ж сетку прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання кантралюе ўсяго адзін спецыяліст аддзела транспарту.

Мы неаднаразова правяралі прадпрыемствы "бытоўкі". Пасля наведання 49 цырульняў рознай формы ўласнасці ў 24 былі выяўлены парушэнні заканадаўства і складзены акты. У 15-ці адсутнічалі Правілы бытавога абслугоўвання насельніцтва, у шасці — кнігі водгукаў і прапаноў. Сем цырульняў чамусьці хавалі ад наведвальнікаў прэйскуранты цэнаў. У трох парушаўся графік работы, дарэчы, устаноўлены калектывам.

Іншыя работнікі шчыра здзіўляліся ў адказ на просьбу паказаць Правілы бытавога абслугоўвання ці кнігу водгукаў і прапаноў. Маўляў, дзесяць гадоў працую, аднак не чула ні пра якія правілы. Магчыма, у магазіне яна і патрэбная, а у нас, у цырульні ...

У 16-ці цырульнях адсутнічалі сертыфікаты на прадметы асабістай гігіены – шампуні, лакі, гелі, крэмы і г.д. Вельмі верагодна, што пасля наведання іншай цырульні неабходна будзе звяртацца да дэрматолага.

Між тым, спажывец мае права на інфармацыю аб таварах і паслугах. Гэта ў інтарэсах кожнага чалавека.

**Аляксей Шульга**




# Новы воблік бюлетэня

Менавіта са жніўня грамадскае аб`яднанне "Таварыства абароны правоў спажыўцоў г. Гродна" перайшло на выданне свайго бюлетэня фарматам малога часопіса. Змяніўся дызайн вокладкі. З`явілася рубрыка "Прававы лікбез", пад якой мяркуецца змяшчаць для паглыблення ведаў спажыўцоў нарматыўна-прававыя акты, прынятыя ў нашай краіне.

У нумары, напрыклад, паведамляецца пра загад Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый Беларусі "Аб зацверджанні палажэння аб упаўнаважаным па абароне правоў спажыўцоў". Змешчана іншая карысная інфармацыя.




**На здымку:** вокладка бюлетэня "Гродненский потребитель"

# Плюшкін таксама можа пацярпець!

Яшчэ з савецкіх часоў мы прызвычаіліся назапашваць усё, што трапляе пад руку. Авось спатрэбіцца зручны і лёгкі набытак! Цяпер кладзем "на ўсялякі выпадак" палімерныя бутэлькі з-пад газіроўкі ці пустыя баначкі з-пад йогуртаў.

Між тым, дактары сцвярджаюць, што доўгае карыстанне імі вядзе да алергіі, хвароб страўніка. Усё гэта прызначана для аднаразовага карыстання. Іх нельга мыць, бо гэта толькі паскарае працэс полімернага распаду, спрыяе выдзяленню канцэрагенаў. Многія спажыўцы памылкова расшыфроўваюць надпісы на тары ці ўпакоўцы. Як правіла, каляровыя кропкі, стрэлкі, трохкутнікі сведчаць толькі пра тое, што прадмет належыць да поўнай ці частковай перапрацоўкі.

У Беларусі, напрыклад, поліэтыленавую бутэльку дзесяць дзён выпрабоўваюць у вадзе і іншых асяродках. І на гэтым ставяць кропку на цэлы год. Можа дамешваць іншыя, больш танныя кампаненты, хаця гэта і забаронена. Даведацца пра такія "рацыяналізатарскія" удасканаленні цяжка. Тым больш, што ў Беларусі тара і ўпакоўка не ўваходзяць у пералік абавязковай сертыфікацыі.

Гэтым карыстаюцца іншыя пастаўшчыкі. Спецыялісты санітарна-гігіенічнай службы фіксавалі небяспечныя поліэтыленавыя пакеты з Азербайджана, польскія бутэлькі для газвады, расійскія баначкі для рыбы і г.д.

Так што для ўласнага здароўя лепш скарыстаць пакупку ў вызначаныя тэрміны, а тару ці ўпакоўку вынесці разам са смеццем. Хто аб сабе дбае, таму і Бог дапамагае!

**Аляксей Шульга**

# Захаванне правоў спажыўцоў гэта...

- калі пакупнік заўсёды мае рацыю, таму, што ён плаціць грошы
- калі ў магазіне чысціня і няма непрыемных пахаў
- калі сервіс і выбар як на Захадзе, а цэны Боскія
- калі ў магазіне адчыняюцца новыя аддзелы
- калі забываецца, што ёсць такія словы, як "закрыта", "пераўлік", "санітарны дзень"
- калі нам здаецца, што за дзесяць гадоў у "вашай" цырульні нешта нарэшце змянілася
- калі прадавец нас паважае і шчыра хоча нам дапамагчы
- калі нам баяцца недагадзіць
- калі ідзеш канкрэтна за хлебам, а вяртаешся яшчэ з нечым смачным
- калі ўласніку выгадна, каб мы пакінулі свае грошы менавіта ў яго, а не ў канкурэнта
- калі нам не шкада патрачаных грошай

# Ратуша

Старонка рэгіянальнага праваабарончага цэнтра

# Вывучылі і напісалі рапарт

Праваабарончы цэнтр Гродзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша" вывучыў цяперашні стан выканання заканадаўства аб нацыянальных меншасцях, канстытуцыйных правах навучання дзяцей на роднай мове ў вобласці. Вынікі маніторынгу адлюстраваны ў адпаведным рапарце.

Напрыклад, у 1999/2000 навучальным годзе ў першых класах Гродна беларускую і польскую мовы вывучалі 0,53 працэнта дзяцей, рускую – 98,9 працэнта. Калі ў 1990/1991 годзе працэнт вучняў першых класаў з беларускай мовай навучання дасягаў 70, то ўжо ў 1995/1996 гадах зменшыўся да 20 працэнтаў і выйшаў на цвёрды нуль ў 1998/1999 гадах.

У бягучым годзе сітуацыя не палепшылася.

Гэта першая спроба ў рэспубліцы паказаць паводле аналізу статыстычных дадзеных, як выконвае дзяржава свае абавязацельствы перад нацыянальнымі меншасцямі ў іх праве вучыцца на мове свайго народа.

Падрыхтаваны адпаведныя схемы і графікі.

Склаў рапарт магістр юрыдычных навук Ягелонскага ўніверсітэта гродзенец Фелікс Гавін, які таксама спасцігаў веды на практычных курсах знакамітай Варшаўскай Школы правоў чалавека.

Рапарт накіраваны зацікаўленым установам як у Беларусі, так і за яе межамі. Дакумент падрыхтаваны на беларускай, англійскай, польскай і рускай мовах.

Нацыянальны склад г.Гродна




Працэнт вучняў першых класаў з беларускай мовай навучання па Гродзенскай вобласці ў 1990/91-1999/2000 навучальных гадах




Мова хатніх зносін у сем'ях Гродзенскай вобласці




Працэнт вучняў першых класаў з беларускай мовай навучання ў г.Гродна ў 1990/91-1999/2000 навучальных гадах*




Мова навучання ў першых класах г.Гродна ў 1999/2000 навучальным годзе




Мова навучання ў падрыхтоўчых класах г.Гродна ў 1999/2000 навучальным годзе




## Юрысты дапамогуць

Цяжка пералічыць усе сітуацыі парушэнняў правоў асобы. Гэта і невыкананне адміністрацыяй пунктаў калектыўнага дагавора, і прымусовае звальненне чалавека з працы «па ўласнаму жаданню» з-за яго грамадска-палітычнай дзейнасці, прычым, у вольны ад работы час і г.д.

Бясплатныя кансультацыі можна атрымаць кожную суботу з 9.00 да 12.00. па адрасу: Горадня, вул. Будзённага, 48а, пакой 31.

***Мова навучання і выхавання, вывучэнне моваў у агульнаадукацыйных школах***

*У Рэспубліцы Беларусь навучальная і выхаваўчая праца ў агульнаадукацыйных школах вядзецца на беларускай і (альбо) рускай мовах. У адпаведнасці з пажаданнямі грамадзянаў, па рашэнню мясцовых выканаўчых і распараджальных органаў могуць ствараца агульнаадукацыйныя школы або класы, у якіх навучальна-выхаваўчы працэс вядзецца на мове нацыянальнай меншасці альбо вывучаецца мова нацыянальнай меншасці.*

**(Арт. 23 Закона «Аб мовах у РБ» )**

**Будні праваабарончых прыёмных**

# “Працягвае няўхільна пагаршацца…”

**Праваабарончы цэнтр, створаны пры Астравецкай раённай арганізацыі Усебеларускага клуба выбаршчыкаў, ажыццяўляе праект “Прававая адукацыя насельніцтва, аказанне практычнай юрыдычнай дапамогі грамадзянам для абароны сваіх законных правоў і інтарэсаў”. На пытанні карэспандэнта “МП” адказвае кіраўнік цэнтра Іван КРУК.**

— Актыўную работу мы пачалі 28 сакавіка гэтага года. Прапагандуем прававыя веды, дапамагаем людзям на практыцы дамагчыся свайго, імкнемся спрыяць фарміраванню ў краіне грамадзянскага плюралізму і прававой дэмакратычнай дзяржавы.

Засведчу, што абарона правоў чалавека ў раёне пагаршаецца. Мясцовыя ўлады вельмі хваравіта адрэагавалі на стварэнне нашага праваабарончага цэнтра. Нам не ўдалося надрукаваць у дзяржаўнай раённай газеце аб'яву, хаця яе кошт быў своечасова аплачаны. Маё прозвішча і прозвішча юрыста праекта Мікалая Уласевіча раптоўна з'явілася ў дзяжурнага міліцыянта Астравецкага суда, куды нас цяпер прапускаюць толькі па асабістаму ўказанню старшыні гэтай установы.

Пакуль што не ўдалося знайсці месца для размяшчэння офіса праваабарончага цэнтра. Раней мы знаходзіліся ў памяшканні раённага таварыства інвалідаў. Але выканкам рознымі хітрыкамі скасаваў дагавор аб арэндзе. Старшыня таварыства В.А.Філатаў меў непрыемную размову ў райвыканкаме.

***— І тым не менш работа вядзецца. Людзі ведаюць, дзе шукаць праваабаронцаў і карыстаюцца магчымасцю бясплатна атрымаць юрыдычную дапамогу…***

— Вымушаны рабіць гэта на кватэры кіраўніка праекта. Прыём ажыццяўляем штодзень з 8.00 да 20.00, за выключэннем суботы і нядзелі. Запаўняем спецыяльны журнал уліку наведвальнікаў, дзе занатоўваем сутнасць звароту, прынятае рашэнне.

За мінулы час за дапамогай звярталася 58 чалавек. Дапамагалі кансультацыямі, напісаннем зваротаў і скаргаў у розныя дзяржаўныя інстанцыі. У шасці выпадках падрыхтавалі дакументы для судовага разбіральніцтва. Аднойчы выступалі ў ролі грамадскага абаронцы па крымінальнай справе грамадзяніна Л. Вайцюля. Справа спынена з-за адсутнасці складу злачынства. Мы здолелі адстаяць у калегіі па грамадзянскіх справах абласнога суда парушаныя правы 30 грамадзян, у адносінах якіх былі прызнаны неправамоцнымі рашэнні адміністрацыйнай камісіі Астравецкага райвыканкама. Па гэтаму факту мы запатрабавалі ад Генеральнай пракуратуры Беларусі зрабіць праверку і прыцягнуць вінаватых з боку азначанай камісіі да адказнасці за фальсіфікацыю дакументаў.

***— Работа праваабарончага цэнтра абмяжоўваецца не толькі вядзеннем прыёму наведвальнікаў…***

— Так. У раёне мы арганізавалі шэсць лекцый і гутарак на прававыя тэмы. Адказы на ўсе свае пытанні атрымалі жыхары вёсак Малі, Тракенікі, Палушы, Градаўшчызна, Гозы, Спонды. Напрыклад, 34 механізатары з калгаса “Чырвоны Кастрычнік” (в. Малі) аб'явілі забастоўку і не выходзілі на работу з прычыны нявыплаты зарплаты за тры месяцы. Пасля нашага ўмяшальніцтва праблема была станоўча ўрэгулявана. У вёсцы Гоза (калгас імя Чапаева) насельніцтва дамаглося ад кіраўніцтва гаспадаркі выдзялення лепшай пашы для ўласных кароў. 70 чалавек два дні байкатавалі здачу малака дзяржаве.

Мы пастаянна пераконваемся ў вельмі слабым веданні грамадзянамі заканадаўства. Пагэтаму паездкі па населеных пунктах раёна мяркуем працягваць і надалей. Ніводная дзяржаўная ўстанова не дапамагае нам у арганізацыі сустрэч з жыхарамі вёсак.

***— Можна сказаць, што кола людзей, якія ведаюць, куды звяртацца пры неабходнасці, пастаянна пашыраецца…***

— Ведаеце, як у сельскай мясцовасці хутка расходзіцца навіна: адзін сказаў, іншы пачуў, перадаў яшчэ каму – і вось у нашу прыёмную заходзіць чарговы наведвальнік. Аднак лепшай рэкламай уласнай дзейнасці лічым прафесіяналізм і кампетэнтнасць. Прыемна чуць словы падзякі ад грамадзяніна, які пры дапамозе праваабарончага цэнтра дамогся свайго, адстаяў уласныя інтарэсы. Наш адрас наступны: г.п. Астравец, вул. Валадарскага. Д. 45, кв.38. Тэл/факс 2-19-93.

**Гутарыў**
**Уладзімір Кавалёў**

# Прыватызавалі нават герб




Гродзенскае абласное грамадскае аб'яднанне “Ратуша” звярнулася са спазыскам у абласны гаспадарчы суд. У якасці адказчыка названы гарвыканкам. Сваім рашэннем выканаўчы камітэт забараніў няўрадавай структуры выкарыстоўваць у сваёй эмблеме элемент выявы гарадскога герба – аленя Святога Губерта.

**Справы судовыя**

Гарадскую “вертыкаль” падтрымалі аддзел па архівах і справаводству аблвыканкама, адпаведны рэспубліканскі камітэт і Дзяржаўная геральдычная служба. На баку “Ратушы” выступіў ганаровы сябра Усерасійскага, сябра Польскага і Украінскага геральдычных таварыстваў Анатоль Цітоў.

Вучоны лічыць, што ў эмблеме грамадскага аб'яднання выкарыстоўваецца інтэрнацыянальны геральдычны элемент – алень, які адрозніваецца ад гарадскога герба ўзору 1990 года. Алень Св. Губерта прызнаны патронам таксама шэрагу іншых гарадоў Еўропы – Францыі, Бельгіі, Іспаніі, Італіі. Варыянты герба могуць мець незлічоную колькасць. Тым больш, што артыкулы 8-ы і 21-ы Закона Беларусі “Аб аўтарскім праве і сумежных правах” сведчаць, што аб'ектамі аўтарскага права не з'яўляюцца дзяржаўныя сімвалы і знакі: сцяг, гімн, герб, ордэны і г.д. Яны перайшлі ў грамадскі набытак, могуць свабодна выкарыстоўвацца фізічнай ці юрыдычнай асобай.

Вядома, што 15 чэрвеня 1988 года гарадскія ўлады зацвердзілі новы герб з выяваю аленя Св. Губерта, але… без крыжа, затое з пяціканцовай зоркай у верхнім полі края шчыта. Гэтая недарэчнасць была выпраўлена гарсаветам 1-га лістапада 1990 года.

**На парадак дня**

# Абараняць сяброў нашых меншых

У першым паўгоддзі гродзенскія СМІ неаднаразова з”вярталіся да тэмы абароны жывёлін. Карціна вынікае жудасная. У выніку 11 ліпеня створана грамадская арганізацыя “Таварыства аховы жывёлаў”.

Быў надрукаваны зварот да грамадзянаў. На імя старшыні гарвыканкама Анатоля Пашкевіча накіраваны ліст з патрабаваннем неадкладна вырашыць праблемы бязлітаснага стаўлення чалавека да жывёлаў, спынення арганізаванага забойства бадзяжных сабак і катоў.

“Вертыкаль” заявіла, што такія пытанні яна на сваіх паседжаннях рашаць не будзе. А чаму здзіўляцца? На людзей увагі не стае. А тут Моські, Тузікі ды каты бязродныя…

# Светара закавалі ў кайданкі

**Амаль дзве гадзіны працягвалася 28 ліпеня імправізаваная прэс-канферэнцыя каля варот консульства Рэспублікі Польшча ў Гродне. Настаяцель Свята-Еўфрасіньеўскага прыходу Беларускай праваслаўнай народнай царквы, што ў пасёлку Пагранічны Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці, айцец Іаан (Іван Рыгоравіч Спасюк) распавядаў журналістам, як раніцай у гэты дзень распачаў службу, прысвечаную Святому Уладзіміру.**

## «Айцец Іаан, на выхад!»

Аднак у памяшканне, прызначанае для малення, не здымаючы шапак, уварваліся ўчастковы і два міліцыянты, загадалі айцу Іаану ісці за імі. Той адмовіўся спыніць багаслужбу. Тады яго нахабна адпіхнулі, адарвалі некалькі гузікаў, накінулі на рукі кайданкі і пацягнулі да машыны. Айцец Іаан прамовіў, што без прадстаўніка ўлады, не зробіць ні кроку. Скарыстаўшы момант, святар здолеў сесці ў службовы аўтамабіль, заехаць дадому, дзе забраў жонку і дзяцей, паведаміў па тэлефоне аб чынімым беззаконні знаёмым гродзенскім журналістам, а таксама службоўцам амерыканскай амбасады ў Мінску. Дыпламаты параілі яму з`вярнуцца ў бліжэйшае дыпламатычнае прадстаўніцтва.

Не паспелі ад`ехаць ад дома, як незнаёмы палкоўнік міліцыі спрабаваў блакаваць аўтамабіль сваёй машынай. Міліцыянты сілай цягнулі з аўтамабіля жонку святара, адкідвалі прэч дзяцей, ледзь не выламалі дзверцу, аднак электронны аўтамабільны вартаўнік устрывожыў палову пасёлка. Ахоўнікі правапарадку адступілі, кінулі ў машыну ключы ад кайданкаў: "Калі абрыдне, скінеш!".

Да Гродна даехалі без прыгод. Каля генконсульства сустрэлі журналісты, якія і атрымалі гэтую інфармацыю. Дадаткова даведаліся, што міліцыянты ў пасёлку настойліва прапанавалі айцу Іаану выплаціць нібыта накладзены судом штраф на суму адзін мільён рублёў за "незаконнае вядзенне царкоўнай службы". Самому дакумент прачытаць не далі. Рэгістрацыя прыходу БНЦ цягнецца ўжо два гады.

Пра сутнасць Беларускай народнай царквы была змешчана публікацыя ў дзяржаўнай абласной газеце "Гродзенская праўда". Гэтая царква хоча выйсці з-пад юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярхату і далучыцца да замежнай рускай праваслаўнай царквы. Супраць айца Іаана ўзбуджаліся судовыя справы. Аднак дагэтуль інкрымінаваная яму віна не даказана. Пераслед працягваецца.



Надаць публічнасць гэтай справе светару дапамаглі генеральны консул РП у Гродне Сільвестр Шостак і сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Домаш. Яны гутарылі з айцом Іаанам, звязаліся з польскім пасольствам у Мінску, кіраўніцтвам абласнога ўпраўлення міліцыі, паставілі да ведама абласную і гарадскую ўлады.



**"Кожны мае права самастойна вызначаць свае адносіны да рэлігіі, асабіста або сумесна з іншымі вызнаваць любую рэлігію або не вызнаваць ніякай, выказваць і распаўсюджваць перакананні, звязаныя з адносінамі да рэлігіі, удзельнічаць у адпраўленні рэлігійных культаў, рытуалаў, абрадаў, не забароненых законам"**
**(Арт. 31 Канстытуцыі РБ)**

## Споведзь для журналістаў

А тым часам святар у цяркоўным адзенні, з двума сярэбранымі крыжамі, але з закаванымі ў наручнікі з нумарам 9369 рукамі цярпліва чакаў рашэння сваёй долі і ў каторы раз пераказваў журналістам, якіх пабольшала, свае праблемы. Побач стаялі жонка і малыя дзеці.

Неўзабаве прыехалі людзі ў цывільным. Не прадстаўляючыся, яны паспрабавалі адразу пацягнуць айца Іаана ў машыну. Аднак праваабаронца абласнога аддзялення БХК Алег Сідзігаеў рашуча прыпыніў гэтае незаконнае самаўпраўства. Тады супрацоўнікі крымінальнага вышуку, сярод якіх назваў сябе толькі Іван Шпарко, па надуманых прычынах забралі пашпарт светара.

Першага жніўня святар быў зноў затрыманы міліцыянтамі ў сваім прыходзе ў пасёлку Пагранічны. Яго даставілі ў суд. Запрасіць сведкаў з боку айца Іаана суддзя Казакевіч забараніў. Затое "сведчылі" сем супрацоўнікаў РАУС. Разбіральніцтва цягнулася некалькі мінут. Святар быў асуджаны на пяць сутак за "непадпарадкаванне міліцыі". Увесь гэты час ён трымаў галадоўку. Цяпер хоча пераасвяціць апаганены храм.

**Сцяпан Ярашчук**

Рэдакцыйная калегія бюлетэня «Маю права»
*Аляксандр Антанюк, Фелікс Гавін, Сяргей Мальчык, Аляксандр Мілінкевіч, Аляксей Шульга*

Выдаецца на беларускай і рускай мовах
На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.
230023 г. Гародня, вул. Будзённага, 48-а
ГА «Ратуша» тел./факс. 44-22-90
E-mail: mil@ratusha.grodno.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Уладзімір Кавалёў
Дызайн і вёрстка Аляксей Ланін

Бюлетэнь дабрачынна надрукаваны ГАГА «Ратуша» пры падтрымцы фонда «Альянс Каунтэрпарт», камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША)